# Карэспандэнцыі.

## „Вызвалене“ проціў беларускай школы.

*(З Валожыншчыны).*

Даведаўшыся ад сваей нарачонай вуч. Галубовіч, што сяляне вёскі Гута (Валожынскі пав.) дамагаюцца беларускае школы, пасол з „Вызваленя“, пан Дуброўнік, прыехаў у нашу вёску і устроіў мітынг дзеля **барацьбы з беларускай школай,** на каторым, паміж іншым, сказаў: „На што вам беларуская школа, вы з ёй даедзеце толькі да Горадні, а там прапалі“!

Паночкі з „Вызваленя“, вы забыліся той час, калі сулілі даць нам і роўную школу, і волю, і долю, і чаго душа жадае?! А, цяпер...э, што цяпер!

**А. Б.**

## Размова з Інспэктарам Школьным Косаўскага павету.

*(Вёска Галік).*

17-X с. г. пайшоў я да Інспэктара ў справе школьнай.

Пытаецца: „czego p. przyszedł? skąd?“

Я кажу: з вёскі Галік і даю яму пасьведчаны ўрадам прыгавор, спіс дзетак і паданьне.

Тут раптам Інспэктар кажа: „ja nie dam wam nauczyciela!“.

А я кажу: вы зрабеце тое, што да вас належыцца, а вучыцеля нам прышлець Віленск. Белар. Школьн. Рада.

Тагды ён зноў кажа: „ale musicie uczyć dzieci prywatnie na swój koszt“, а я яму кажу, што, паводле Інструкцыі, мы маем права адчыніць сваю беларускую школу, бо маем ажно 53 дзетак, каторыя хочуць вучыцца ў роднай мове, а што датычыцца вучыцеля, дык яму ўрад павінен плаціць таксама, як польскаму.

Інспэктар кажа: „w waszej wsi niema odpowiedniego budynki, i dzieci z Halika mogą chodzić do wsi Busiażý“ (ў в. Бусяж ёсьць школа; урад пачаў рамантаваць, а як паглядзеў, што людвасьць хоча беларуск. школу, дык рамонт кінулі).

Я яму стаў казаць, чаму-ж быў адпаведны будынак, як была польская школа? (бо ў нашай вёсцы была польская школа ў 1921, 22 і 23 г.), а ў польскай школе нашых дзетак за ўвесь час нічога не навучылі, ня толькі чытаць ці пісаць, але ня ўмеюць лічыць да 10 папольску. Да Бусяжы так сама, кажу, дзеткі 7 ці 8 гадоў ня могуць хадзіць 3 вярсты ў зімовы час, а людзі бедные, дык ня маюць для дзетак добрае вопраткі, дык нашто нам Бусяж, калі мы маем права мець школу ў нашай вёсцы.

Інспэктар падзівіўся ў свае сьпісы і кажа: „U Haliku niema tyle dzieci, żeby była szkoła, — wasz sołtys napisał tylko 37 dzieci“: а я яму паказаў сьпіс 53 дзетак.

„Jak sołtys zrobił fałszywy spis, to będzie za to odpowiadać“.

Я стаў тлумачыць, што солтыс невінаваты, бо як ён пісаў, дык думалі, што будзе польская школа, дык не хацелі пісаць, а як я стаў пісаць і сказаў, што будзе школа наша, беларуская, дык кажды бацька стараўся запісаць сваё дзіця.

П. Інспэктар зноў кажа, што „вашы дзеці могуць хадзіць у Бусяж“. Тагды я стаў казаць, што вы, замест-таго, каб памагаць адчыняць нам школы, робіце перашкоды, а ўрад, замест школы, адчыняе манаполі!— Места Косаў невялікае, а ёсьць ажно 3 манапольні, а чацьвёртая растаўрацыя, і гэтыя ўсе „прысутцтвы“ прадаюць гарэлку. А як будзеце перашкаджаць, дык я напішу да нашых паслоў у Сойм, а паслы зьвернуцца да міністра асьветы.

Кажа п. Інспэктар: „bardzo proszę, ja nie przeszkadzam, a będę dopomagać“.

Я падзякаваў за апошнія словы п. Інспэктара і ўзрадаваўся, што будзем мець школу. На запытаньне вяскоўцаў, што казаў Інспэктар, я і кажу: школа будзе.

Вось, цяпер і чакаем спаўненьня слова п. Інспэктара. **Юстын Гордзенко.**

## Дзіўная хвароба.

*(З Лідчыны).*

Каля нас ёсьць у в. Голдава сьвяшч. Міхал Чабоўскі, Лідзкі праваслаўны дзекан. Ен колькі гадоў зраду хварэе на нейкую дзіўную хваробу, як кажуць яго парафіяне, бо ўжо колькі гадоў ня бывае набажэнства ў царкве, апрача фэстаў, у якія служаць прыежджыя сьвяшчэньнікі-суседзі.

Але цікавая рэч: як толькі прыяжджаюць хрысціць ці вянчацца,—дык хвароба праходзе, і, сьвяш. ня здолеўшы служыць у нядзелю, ідзе і вянчае. Заўраўды, „дзіўная хвароба“, — дзе служба Богу — там хвароба, а дзе маркі — там здароўе. **Я.**

# Паштовая скрынка.

**Паўлу Малько, С. Пабудзею, Ф. Леўчуку, Уладз. Кучынскаму, Тамашу Шагуну, А. Угліку, Сьцяпану Пазьняку, Юстыну Рошчэнку, Казімеру Сечаню, Р. Шчэрбінскаму, С. Лімонту, М. Краснапольскаму, Васілю Сокалу, Уладзімеру Божко.**—Па 2 зл. атрымалі. Газэту высылаем. **М. Гучку, Капусьце, Сьцяпану Сьляжэйскаму, М. Савоню.**—Па 6 зл. атрымалі. **Яну Трахімовічу, Паўлу Макарчыку, Б. Літвінчыку, М. Бабіло, Я. Балашу, В. Кузьмічу, М. Лебедзінскаму.**—Па 4 зл. атрымалі. Газэта высылаецца. **Васілю Чаботару.**—9 зл. атрымалі. **Язэпу Пацукевічу.**—1 зл. атрымалі. „На ростані“ і „Як аткрыць беларускую школу“—выслалі.

# БІБЛІЯГРАФІЯ.

**„ФІЗЫКА“. Мэханіка і цяплыня Нэканда Трэпкі.**

Я ўжо даўно зьбіраўся напісаць рэцэнзію на гэты падручнік. Аднак, зрабіць гэта ня так то лёгка. Чытаць вучэбнік ня можна так скора, як раман. Толькі выкладаючы па вучэбніку, можна ацаніць яго вады і яго добрыя бакі.

Я выкладаў фізыку ў 6-ай клясе дзяржаўнае гімназіі па вучэбніку Фізыкі Каліноўскага, які лічыцца найлепшым у польскай літэратуры. Цяпер выкладаю гэты самы прадмет у Беларускай Гімназіі па вучэбніку п. Трэпкі, уложанаму, паводле Каліноўскага, і таму магу ацаніць той і другі.

У падручніку п. Каліноўскага шмат філязофіі. Яго добра чытаць настаўніку, які і павінен выкладаць па ім, але, як вучэбнік для сярэдняй школы, ён ня вельмі падходзіць, бо прыпамінае хутчэй лекцыі, чы падручнік.

Гэтай памоему найбольшай вады падручніка п. Каліноўскага няма ў падручніку п. Трэпкі. Тут вылажана самае патрэбнае і вылажана ясна і коратка. Праўда, што, дзякуючы строгасьці выкладу падручніка, вучню цяжка самаму разабрацца ў падручніку. Настаўнік, які выкладае фізыку, мусіць дзеля гэтага трымацца досыць блізка падручніка і крок за крокам камэнтаваць яго і ўвадзіць вучня ў навуку.

Падручнік Трэпкі патрабуе добрага падгатаваньня вучняў з матэматыкі, бо ў ім вельмі строга выводзяцца формулы і ўжываецца графічны мэтад прадстаўленьня залежнасьцяў паміж вялічынямі. Найбольшую труднасьць становіць зразуменьне вучнямі вымеру вялічынь, якога няма, напрыклад, у найлепшым расейскім падручніку Краевіча.

Мушу зазначыць, што пры пісаньні фізыкі п. Трэпка карыстаўся ня толькі Каліноўскім. Многае ў яго вылажана значна ляпей, як у Каліноўскага. Так, напрыклад, у Каліноўскага ня зусім зразумела, як аблічаецца тэмпэратура па газаваму тэрмамэтру. Гэта зусім добра вылажана, паводле Віткоўскага і Закрэўскага, п. Трэпкаю, які дае формулу аблічэньня тэмпэратуры. Возьмем, напрыклад, адхіленьне падаючага цела ад стоці. Здавалася-б, што гэта вельмі цяжка зьмерыць і што патрэбны дакладныя інструмэнты. Але п. Трэпка зьвешвае шнур з гіраю на канцы, пушчае з гары падаючае цела, і адразу відаць, што ня трэба ніякіх асаблівых прыладаў для мераньня адхіленьня.

Вельмі проста выводзе п. Трэпка формулу матэматычнага матача.

Рысункі выкананы вельмі добра — шмат ляпей, як у Каліноўскага. Па падручніку Каліноўскага я ня мог зразумець паветранай помпы Гедэ, так замазаны там рысунак.

Зрабіўшы падручнік п. Трэпкі менш навучным, выкінуўшы нп. вымер вялічынь, шмат формул,—ведама, можна было-б зрабіць яго больш даступным для вучняў. Але падручнік ня меў-бы ўжо ніякай вартасьці для настаўніка. Настаўнік можа выкінуць тое, што ён лічыць цяжкім для вучняў. Не забывайма, што падручнік Трэпкі—першы ў нашай літэратуры. Калі-б мы мелі ўжо некалькі падручнікаў—менш строгіх, то пасьля іх падручнік п. Трэпкі быў-бы пэўне найлепшым.

Пакідаю збоку тэрміналёгію. Магчыма, што некаторыя тэрміны можна было-б замяніць лепшымі: „матач“ — „хістальнікам“, але гэта справа ўжо не аднаго чалавека.

Кожны аддзел мае досыць задачаў для самадзейнай працы вучняў.

Да заданьняў гэтых варта было-б далучыць адказы, бо тагды вучні маглі-б спраўдзіць, ці добра яны разьвязалі заданьне.

У аддзеле цяплыні варта было-б па аналёгіі жыжак у злучаных пасудзінах выясьніць розьніцу паміж **тэмпэратурай** і колькасьцяй цяпла.

Можна зусім шчыра рэкамандаваць падручнік п. Трэпкі для сярэдніх школ і беларускага настаўніцтва і чакаць далейшых частак фізыкі п. Трэпкі. **Б.**

# Усячына.

## З колішніх судоў.

Судзяць мужыка за тое, што аблаяў пана дурнем. Натуральна, засудзілі некалькі злотых штрафу. Селянін прыняў прыгавор зусім спакойна, а пасьля падыходзіць да судзьдзяў і пытаецца.

— Растлумачце мне, паночкі: ось, я сказаў на разумнага пана „дурны“ і за тое плачу штраф, а калі я на дурнога пана скажу „разумны“, дык нічога за тое ня будзе?

— Не, нічога, адказываюць.

— А, ну дык бывайце, паночкі разумненькія, усенькія здаровенькія і шчасьліввенькія! **К.**



Рэдактар-Выдавец **Антон Войцік.**

Друкарня **Н. Левін і Сын,** Вільня, Нямецкая 22.